 

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1551) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 2 ЛЮТАГА 1986 г. ЦАНА 10 зл.

## СТАЛІЦА ТАМ, ДЗЕ Я

*— Лёнік Тарасэвіч, імя і прозвішча вядомае сяму-таму з чытачоў „Нівы“ як таго, які час ад часу змяшчае смешнаватыя рысункі...*

— Сакраце, як напачатак гэта няблага. Мне ўсяго ж паўтара года, так сказаць, г. зн. ад часу, калі я перастаў быць студэнтам мастацкай акадэміі і стаў дарослым.

*— Ты вучань вядомага Тадэвуша Дамініка.*

— Не ведаю, ці так вельмі добра гэта быць вучнем кагосьці вядомага... Бачыш, гэта надта абавязвае, гняце, каб не выявіцца горшым ад свайго настаўніка, і разам з тым няма пэўнасці, ці хопіць таленту...

*— Толькі тупы чалавек не сумняваецца. Шэсць выставак тваіх работ на працягу тых паўтара года, і не менш выставак супольна з іншымі мастакамі ў Варшаве, Лондане, Стакгольме, Эдынбурзе, гэта ашаламляе. Баюся, каб цябе не прываліла міфічнай калодаю ўдача!*

— Буду асцярожны. Я ж, як лясун, бачыў вырубкі ў лесе...

*— Рэпрадукцыі тваіх карцін у „Ніве“ — наўрад, ці хто разумее іх, а некаторыя, мабыць, падазраюць, што рэдакцыя прывар'яцела!*

— Спачуваю яе шэфу, Валка-

(Працяг на стар 6)



Лёнік Тарасэвіч. Фота Мікалая Гайдука.

## ЛЮДЗІ

## БЕСПЕРАПЫННА Ў ДЗЕЯННІ

Мікалай Касцюк нарадзіўся ў 1930 годзе ў Рагачах, што ў Мілейчыцкай гміне. Сялянская доля яго бацькоў, так як і іншых беларускіх сялян, была нялёгкая. А што ўжо гаварыць пра сумны лёс іхніх дзяцей!

Нямецкую акупацыю Мікола памятае ўжо вельмі добра, знае яе жахі, бачыў людское гора. Часта ўспамінае дзень вызвалення, дзень радасці народнай. Было гэта летам 1944 года. У хуткім часе дзеці пайшлі вучыцца, а для пераросшых дзяцей ствараліся вячэрнія сямікласныя школы. Мікалай Касцюк скарыстаў з гэтага дабрадзейства і закончыў „вечароўку“ ў Рагачах.

Быў гэта спецыфічны перыяд часу. На Беласточчыне было неспакойна. Банды ліквідавалі арганізатараў народнай улады, паралізавалі яе станаўленне. А прыхільнікі новага ладу актыўна ўключаліся ў абарону маладой дзяржавы, спрыялі ёй як маглі і ўмацоўвалі яе.

Мікалай Касцюк тады ўжо цікавіўся вялікімі грамадска-палітычнымі справамі; так як большасць беларусаў, быў на баку новай Польшчы. У пачатку 1947 года ўступіў у рады Саюза барацьбы маладых (ЗВМ), а пазней дзейнічаў у Саюзе польскай моладзі (ЗМП).

У 1950 годзе гэты малады чалавек распачынае свой самастойны працоўны шлях. Пачаў працаваць рабочым на Мілейчыцкай кафельнай фабрыцы, якая належала да сямяцікага прадпрыемства мясцовай прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. Там партыйная арганізацыя прыняла яго ў кандыдаты ПАРП. Была гэта адна з найвялікшых падзей у яго жыцці.

Праз год бяруць яго ў войска. Там, разам з ваеннай падрыхтоўкай, атрымоўвае ён палітычную закалку. Армейская служба не была для яго цяжкай, прабегла хутка, і ён вяртаецца на сваё прадпрыемства. Тут чакае яго неспадзеўка і гонар: прадпрыемства накіроўвае маладога, здольнага рабочага ў двухгадовы тэхнікум будаўнічай керамікі ў Кратошыне. З юнацкім запалам заканчвае ён гэтую школу.

Не хапала тады кваліфікаваных кадраў. Юнаку з дыпломам тэхніка-кераміка адразу даручылі функцыю кіраўніка Сямя-

(Працяг на стар. 5)

## ЗЯЛЁНАЕ ДАБРО

Да вясны яшчэ далёка, а мне ўжо хочацца палюбавацца прасторнымі сенажацямі, дбайна ачышчанымі ад лазы і альшаніка, удосталь напоенымі вадой з веснавой паводкі ды належна асушанымі, калі спатрэбіцца запусціць на іх — найлепш — ратацыйную касілку, каб трава густым і духмяным пакосам пакланілася да ног руплівому гаспадару. Люблю я сенажаць, абсыпаную рознаколернымі кветкамі, сенажаць культурную, добра дагледжаную і задбаную. Гэта зялёнае дабро нашых сялян.

За такую сенажаць, за гэтае зялёнае дабро паслядоўна змагаюцца ў нас меліяратары. У Беластоцкім ваяводстве маюць яны вельмі многа работы. Пры найбольш спрыяльных умовах хопіць яе аж да канца гэтага стагоддзя, а нават і ў першым дзесяцігоддзі двухтысячнага года будзе яшчэ што ім рабіць. Амаль 300 тысяч гектараў зямельных угоддзяў, значыць, ворнай зямлі, пасбішчаў і сенажацяў патрабуюць у нас меліярацыі. Гэта амаль палавіна ўсіх зямельных угоддзяў, якія надаюцца ў Беластоцкім ваяводстве для сельскагаспадарчага выкарыстання.

Даводзіцца нам адрабляць спрадвечную адсталасць у гэтай галіне. Калі я аб гэтым думаю, дык міжвольна ўспамінаецца мне адзін, вельмі ж характэрны, абразок з юнацкіх маіх, але ўжо пасляваенных гадоў, калі дапамагаў я бацькам упраўляцца з сенам. Сенажаць бацькоўская знаходзілася ва ўрочышчы Зубацкае, дзе праплывала безыменная, але так забалочаная і дрыгвястая рачулка, прыток Пульвы, што людзі і жывёла проста там тапіліся. Касілі траву ў шырэзных пасталах, адносілі яе для прасушкі ў спецыяльных насілках або на шнурках, намасціўшы найперш падсціл з бярозавых жэрдзяў. Закінуць тады абойму мокрай травы на плечы, па хрыбце і далей па ўсім целе сплывае халодная вада, а ты ідзеш сагнуўшыся ды стогнеш, каб данесці і, барані Бог, каб не аступіцца з жэрдкаў, бо паляціш у дрыгву, мяккую, як губка. І так сто-дзвесце метраў аж на Асовую гару... Цяпер па ўрочышчы Зубацкім у час сенакосаў ганяюцца спулдзельчыя трактары. Гэта дзякуючы меліяратарам.

Але патрэбы на меліярацыю сенажацяў і дрэнацыю ворнай зямлі ў Беластоцкім ваяводстве ўсё яшчэ вялікія. Калі ў краіне на канец 1984 года было ўжо меліяравана 65 працэнтаў усіх палёў і лугоў, патрабуючых меліярацыі, дык гэты паказчык для Беласточчыны амаль на 12 працэнтаў ніжэйшы, хаця беластоцкія меліяратары па размерах гадавых эфектаў сваёй працы ў 1981 і ў 1983 гадах займалі першае месца ў краіне, у 1982 годзе апынуліся на другім месцы, а ў 1984 годзе былі, на жаль, ужо толькі на трэцім месцы. Калі, аднак, улічыць, што ў Польшчы аж 49 ваяводстваў, дык беластоцкім меліяратарам сапраўды ёсць чым ганарыцца. У пасляваенны перыяд правялі яны планавую рэгуліроўку водных рэсурсаў на звыш

(Працяг на стар. 4)

 




## „НЕ ТОЕ ЛЯКАРСТВА, НЕ ТОЕ ЛЯЧЭННЕ“

Доўга чакаў я, потым перастаў чакаць водгуку з боку нашых (нашых — значыць, беларускіх студэнтаў) на мой артыкул „Не тое лякарства, не тое лячэнне“ — „Ніва“ з 30.12.1984 г. Мінуў цэлы год, і ў рукі мае трапляе трэці нумар „Сустрэч“, а ў ім адгалоскі на маё выступленне. М. Ваўранюк заняўся палемікай з маімі думкамі; можа нават не думкамі, а трыма пытаннямі, якія я паставіў. Першае пытанне: чаму студэнты ўпэўнены ў тым, што „будучыня беларускага грамадска-культурнага руху ў Польшчы выпрацоўваецца“ ў студэнцкім асяроддзі? Другое пытанне: якія факты гавораць аб тым, што беларуская нацыянальная меншасць наогул адчувае сябе духоўна адчужанай у сваёй краіне? І нарэшце: чаму існаванне адной культуры звязана з барацьбой гэтай культуры з другой? Такія былі больш-менш тэзісы праграмы, відавочна, „на так“, якую пераказаў у сваёй публікацыі Іван Максымюк у „Сустрэчах“ № 1. Можна было б адказаць на палеміку М. Ваўранюка: калі ён не студэнт, то, не ведаючы гэтага асяроддзя, спецыфікі студэнцкага жыцця, не мае проста рацыі. Але не ў тым справа, ці хтось студэнт, ці не, а ў тым, што гаворыць. Выказвае М. Ваўранюк нелагічнасць майго вываду, пішучы, быццам раз гавару, што студэнцкі культурны рух не мае нічога супольнага з грамадствам, а другі раз, што беларускае грамадства патрабуе соцень і тысяч адданых справе дзеячоў. Мая нелагічнасць нібыта ў тым, што студэнты не могуць быць дзеячамі, а яны, на думку Мікалая, як дарастуць, цьфу, як кончаць школы, такімі дзеячамі будуць. І то адукаванымі. Выходзіць, па разуменню сябра, што дзеячамі могуць быць толькі тыя, хто скончыў вышэйшую школу, а хто яе не скончыў, такім дзеячом быць не можа. Што гэта сцвярджэнне не праўдзівае, даводзіць рэчаіснасць. Многа беларусаў пазаканчвала вышэйшыя школы, а дзеячоў няма занадта многа. А, можа, таму іх няма, што не існавалі „Сустрэчы“ і аб'яднанне беларускіх студэнтаў? Прытым ёсць многа дзеячоў, якія вышэйшай адукацыі не маюць. Цікава, ці М. Ваўранюк такую адукацыю мае? І ці сябе залічвае да дзеячоў ці не? М. Ваўранюк лічыць, што студэнцкі грамадска-культурны рух (СГР) мае штось супольнае з грамадствам, няхай гэта дакажа фактамі. Дарагі сябра, пакажы факты, што СГР з грамадствам беларускім мае штось супольнае, апрача таго, што студэнты выводзяцца з гэтага грамадства, тады я публічна адмоўлюся ад сваіх думак у „Не тым лякарстве, не тым лячэнні“, а так дык гэта не размова, а акадэмічная дыскусія. Другая справа, дарагія сябры. Творыце „новую“ культуру, чаму не?! Ці знайшоўся б нехта такі, хто са смут-

(Працяг на стар. 5)

(Працяг са стар. 1)

150 тысячах гектараў зямельных угоддзяў. Праўда, шмат з таго, што было зроблена, скажам, у пяцідзесятых і шасцідзесятых гадах, цяпер патрабуе ўжо паўторнага аднаўлення, бо меліяратары працуюць на жывым арганізме палёў і сенажацяў. Найлепш ачышчаныя рэчкі замуляюцца, канавы зарастаюць хмызняком, пастаянна зніжаецца ўзровень грунтовай вады. Да ўсяго гэтага даходзіць нядбайнасць выканаўцаў і абыякавасць карыстальнікаў, якія часта бяздумна нішчаць меліярацыйнае абсталяванне. Ужо цяпер прыдзецца запраўляць меліярацыю на звыш 30 тысячах гектараў.

Што, аднак, зроблена, дык зроблена і гэта прыносіць ужо канкрэтныя эканамічныя эфекты, ды памнажае сялянскі прыбытак. З падлікаў вынікае, між іншым, што ў мінулым годзе (1985 г.) гаспадары накасілі на 16 працэнтаў больш сена, чым у 1981 годзе, што аўтаматычна адбілася на надоях малака, якія былі вышэйшыя амаль у паўтара раза.

Цэлая сельскагаспадарчая вытворчасць укладваецца ў закрыты ланцуг, у якім кожнае звяно адыгрывае сваю непаўторную ролю, але ў цеснай садружнасці і залежнасці ад усіх іншых звенняў гэтага ж ланцуга. Шукаючы шляхоў стымуліроўкі гэтай вытворчасці, каб як мага хутчэй дабіцца самастойнасці ў пракармленні насельніцтва краіны, неабходна выбраць найбольш перспектыўнае звяно ў гэтым ланцугу, каб ад яго пачаць цэлы складаны працэс уздзеяння на сельскагаспадарчую вытворчасць. Усё паказвае на тое, што гэтакім залатым звяном з'яўляецца зялёнае багацце сенажацяў і дрэнаж ворнай зямлі, каб ранняй вясною можна было хутка засеяць поле і пасадзіць бульбу ды лугі заправіць мінеральнымі ўгнаеннямі. Гэта дае аснову для развіцця жывёлагадоўлі. Значыць, пачаць трэба ад меліярацыі.

Па гэтай справе ёсць нават пастанова Рады Міністраў № 131 ад 7 кастрычніка 1983 года, ёсць і рашэнні прэзідыума ўрада № 65/84 ад 10 снежня 1984 года, ёсць і мясцовыя пастановы Ваяводскай рады нарадовай з 1981, 1983 і 1985 гадоў. На аснове гэтых рашэнняў на меліярацыю ў Беластоцкім ваяводстве ў апошняй пяцігодцы адведзена

## ЗЯЛЁНАЕ ДАБРО



6 мільярдаў 200 мільёнаў злотых. Можна сказаць, што літаральна ў балота пайшло амаль 74 працэнты ўсіх капіталаўкладанняў, выдзеленых на патрэбы вясковай гаспадаркі ў Беластоцкім ваяводстве.

Найбольшую частку з гэтых мільярдаў паглынула гіганцкае вадасховішча між Бандарамі і Семяноўкай. Пабудова яго ўвайшла ўжо ў дзесяты год, але да канца 1985 года зроблена там ледзь 67 працэнтаў запланаванай працы. Прадбачваецца, што напаўненне вадой гэтага штучнага возера пачнецца ў 1989 годзе. Даходзяць да нас чуткі аб вялікай негаспадарнасці на гэтай пабудове, але яно, значыць, Семяноўскае вадасховішча, вельмі патрэбнае для будучага пасляховага развіцця горада Беластока і ўсяе Беласточчыны.

Ваяводская рада нарадовая ў Беластоку пастановай ад 19 снежня 1985 года зацвердзіла праграму ажыццяўлення меліярацыі ў гадах 1986-90. Яна, між іншым, прадбачвае, што на плошчы ў амаль 80 тысяч га поля будуць пракладзены дрэны, а звыш 57 тысяч га падмоклых лугоў атрымае меліярацыю. На ўсё гэта спатрэбіцца 8 мільярдаў 300 мільёнаў злотых, лічачы, зразумела, па цяперашніх цэнах.

Пастановай Рады Міністраў ПНР з 1983 года пастаўкі для меліяратараў уведзены ў сістэму ўрадавых заказаў. Але нягледзячы на гэта, няма ўпэўненасці, што прадбачаныя планам намеры ў галіне меліярацыі будуць паспяхова рэалізавацца. Ваяводскае ўпраўленне ў Беластоку разлічвае на дапамогу Міністэрства сельскай гаспадаркі размерам у звыш паўтара мільярда злотых. Гэтая дапамога, аднак, усё яшчэ астаецца ў межах нефармальных абяцанак. Радныя ВРН, выступаючы ў час гэтай сесіі, выказвалі спадзяванні, што патрэбы Беластоцкага ваяводства захоча падтрымаць на міністэрскім узроўні даўнейшы беластоцкі ваявода, а цяперашні намеснік міністра сельскай гаспадаркі, лясніцтва і спажывецкай прамысловасці Казімеж Дунай.

Не маючы ўпэўненасці ў паспяховасці сваіх планаў, ваяводскія спецыялісты па меліярацыі выдзелілі некаторыя раёны Беласточчыны, у якіх па меры існуючых магчымасцей будуць ажыццяўляцца меліярацыйныя работы. Па тэрміновасці і спешнасці ды неабходнасці правядзення меліярацыйных прац гэтыя раёны ўкладваюцца ў наступнай чарзе: Бельск, Крыпна, Чыжы, Сямяцічы, Юхновец, Заблудаў, Драгічын, Вышкі, Дуброва, Турасць Касцельная, Саколка, Янаў і Шудзялава.

Пасля 1990 года астанецца яшчэ меліяраваць і дрэнаваць у Беластоцкім ваяводстве звыш 60 тысяч гектараў ворнай зямлі і амаль 45 тысяч га сенажацяў.

**В. Рудчык**
Фота аўтара

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА „СЛОВА“

### ЧАСТКА ДРУГАЯ

Адным з першых, хто выказаўся ў друку, што „Песня або Слова“ пра паход Ігаравы напісана на беларускай мове невядомым паэтам“, быў паэт і гісторык Людвіг Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля). Яго думку падтрымаў вядомы вучоны-славіст Пётра Бяссонаў, які ў 1871 г. сцвярджаў: „Мову сваю Беларусь дала большай частцы іншых... народнасцей, а з мовай — пісьменнасць...“, бо якраз на Беларусі ў старажытныя часы „народныя звычаі развіваліся беспярашкодна і да падрабязнасцей творчасць кіпела багатымі сіламі; песняй і вершам, не шырокім і не доўгім, а ў тысячах відаў; прыгожым і часткова жартоўным характарам напаўняўся ўвесь гэты бачымы і нябачымы вобраз народнага жыцця“ і ў гэтых абставінах узнікла на Беларусі „Слова пра паход Ігаравы“.

Аўтар першага падручніка па гісторыі „старадаўняй беларускай літаратуры“ праф. Мікола Янчук „Слова“ назваў „высокамастацкай песняй невядомага аўтара“ і далей падкрэсліваў, што пільны чытач „адразу заўважыць на гэтай „Песні“ беларускую афарбоўку, пабачыць асаблівасці, характэрныя для нашай краіны“.

Нашага выдатнага земляка, бо, як вядома, М. Янчук нарадзіўся ў вёсцы Корніца над Бугам (каля Сямяцічаў) і вучыўся ў Бельску Падляшскім, падтрымаў і ўдакладніў заслужаны даследчык беларускіх гаворак праф. Павел Растаргуеў. У сваёй працы ён даказаў, што „Слова“ напісана „на мове Северскай беларускай зямлі“. Северскай беларускай мовай П. Растаргуеў называе беларускую гаворку, „якая бытуе на тэрыторыі былых паўночных паветаў Чарнігаўскай губерні, гэта значыць на тэрыторыі Мглінскага, Навазыбкаўскага, Старадубскага і Суражскага паветаў і гаворка заходняй паласы Трубчэўскага павету былой Арлоўскай губерні (гэтая тэрыторыя ў XII-XIII ст.ст. уваходзіла ў Ноўгарад-Северскае і Трубчэўскае княствы, цяпер яна знаходзіцца ў складзе Бранскай вобласці Расійскай СФСР — М.Г.)... Северска-беларуская мае шэраг рысаў, агульных з паўднёва-заходнімі беларускімі гаворкамі і невядомых іншых чыстым гаворкам Беларусі“.

Таксама вучоныя-фалькларысты пацвярджаюць беларускі радавод фальклорных элементаў у „Слове“. А беларускі гісторык літаратуры Сцяпан Майхровіч на падставе доследаў сцвердзіў „кроўнае сваяцтва паэтычнай стылістыкі, лексікі і фразеалогіі „Слова...“ з вуснай мастацкай творчасцю беларускага народа“.

На падставе грунтоўнага аналізу гістарычных падзей XII-XIII ст.ст. у Еўропе і Азіі і адносін да іх аўтара „Слова“ савецкі гісторык Леў Гумілёў прыйшоў да вываду, што гэты

# БЕСПЕРАПЫННА Ў ДЗЕЯННІ

(Працяг са стар. 1)

цiцкай кафельнай фабрыкі. Але яго веды былі вельмі патрэбныя ў дырэкцыі прадпрыемства, і яго праз год працы ангажыруюць на работу ў аддзеле тэхнічнага кантролю, у аддзеле аховы працы, пасля — па арганізацыі забеспячэння. Пазней Мікола Касцюк становіцца намеснікам дырэктара прадпрыемства па тэхнічных справах.

Ад таго часу ён у віры шматлікіх заданняў, звязаных з вытворчасцю, з дзеяннем людзей на розных участках працы і з людскімі суадносінамі, пры ўладжванні якіх неабходныя такія якасці, як станоўчасць, прынцыповасць і патрабавальнасць да падначаленых і да сябе. Такія якасці былі ўласцівы Мікалаю Касцюку, і намеснікам дырэктара прапрацаваў ён ад лета 1959 года да канца снежня 1974 года.

Вядома, на гэтай важнай службе бывала па-рознаму, былі смуткі і радасці, недахопы і дасягненні, закіды і ўзнагароды. Але ў суме быў гэта перыяд працы і для прадпрыемства і для Мікалая Касцюка вельмі плённы і карысны.

У 1975 годзе ў нашай краіне была ўведзена новая адміністрацыйная структура. Перасталі існаваць паветы. Гміны перанялі на сябе шмат абавязкаў павятовых улад. Гміннную адміністрацыю з гэтага часу ўзначальваюць начальнікі, якія атрымалі даволі шырокія правы. На гэтую пасаду падбіраліся людзі з вопытам кіравання, з арганізацыйнымі здольнасцямі, ініцыятыўныя. Мікалай Касцюк узначаліў гміннае ўпраўленне ў Нурцы. У яго ведамстве апынуліся ўсе дзялянкі народнай гаспадаркі Нурэцкай гміны і ўсё тое, чым жывуць і хвалююцца жыхары паасобных вёсак.

У перыяд начальствавання Мікалая Касцюка, якое працягвалася 10 год, мне як журналісту давялося няраз быць у памяшканні гміны і чуць, як гаварыў ён з людзьмі, якія звярталіся да яго са сваімі турботамі і патрэбамі, а часамі і скаргамі. Кожнага ўмеў ён выслухаць уважліва і цярпліва, для кожнага ў яго знаходзілася спагадлівае, цёплае слова і разумная парада.

Варта адзначыць і той факт, што пры актыўным удзеле начальніка гміннага ўпраўлення на тэрыторыі Нурэцкай гміны штогод адбываліся народныя бе-



ларускія фэсты. Ён пры кожнай нагодзе і ў кожнай патрэбе ішоў на руку БГКТоўскай арганізацыі. І менавіта таму члены БГКТ з Нурэцкай гміны выбралі яго дэлегатам на X з'езд БГКТ. А калі ў Сямяцічах стварыўся аддзел БГКТ, а было гэта 26 сакавіка 1985 года, дэлегаты выбарнай канферэнцыі яго, як многагадовага члена БГКТ і актывіста, аднагалосна выбралі старшынёю аддзела.

Праўленне аддзела, яго прэзідыум, а ў першую чаргу старшыня павінны дбаць пра ўмацоўванне нацыянальнай свядомасці сярод сваіх членаў БГКТ, пра ўшаноўванне роднай мовы і ўсяе нашай культуры, павінны ўстрымліваць працэс затрачвання сваёй нацыянальнай таясамасці, так, каб смелае дэманстраванне беларускай своеасаблівасці не было, асабліва ў горадзе Сямяцічах, сарамлівай справай. І ўсё гэта павінна спалучацца з прывязанасцю да нашай народнай дзяржавы, якая зраўняла ў правах усе нацыянальнасці. Як з гэтымі заданнямі справіцца Мікалай Касцюк, час пакажа. Але ўжо можна сказаць, што ёсць задаткі добрых пачынанняў: ёсць планы і намеры разгортваць аматарскі рух з беларускім рэпертуарам, зроблены значныя намаганні, каб апрача гарадскога гуртка БГКТ арганізаваць іх на некаторых большых прадпрыемствах. Ужо шмат зроблена ў гэтым напрамку ў „Гортэксе", у якім старшыня аддзела працуе сёння на паўстаўкі.

Поспех БГКТоўскай дзейнасці ў значнай ступені залежыць і ад інвенцыі штатнага працаўніка ГП на тамашні раён Міхася Вішанкі, і ад таго, наколькі патрабавальна да яго будзе адносіцца прэзідыум аддзела на чале са сваім старшынёю.

Мікалай Касцюк даўно жыве ў Сямяцічах. Мае чацвёра дзяцей, трое з іх ужо даўно паўналетнія і сямейныя, а чацвёртае ходзіць у першы клас мясцовага агульнаадукацыйнага ліцэя. Ён добры, клапатлівы і чуллівы бацька, я асабіста ведаю, як перажывае ён нягоды і радасці іх, нягледзячы на тое, што яны ўжо самастойныя і сямейныя.

Дзеці і ўнукі могуць ганарыцца сваім бацькам і дзедам, які нямала зрабіў для нашай дзяржавы і, нягледзячы на тое, што ўжо на пенсіі, далей патрэбны і ў „Гортэксе", і ў БГКТ, і ў іншых арганізацыях. На яго грудзях, калі ён надзене парадны касцюм, відаць адзначэнні: „Залаты значок заслужанага для будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў", сярэбраны і залаты значок „Заслужаны для Беласточчыны", медаль „XXX-годдзя ПНР", „Сярэбраны крыж заслугі", „Залаты крыж заслугі" і іншыя ўзнагароды, а ў асабістым архіве ляжаць шматлікія дыпломы і лісты падзякі. І будуць напэўна яшчэ далейшыя ўзнагароды; Мікалай Касцюк безупынна ў дзеянні, бесперапынна энергічны.

**Міхась Хмялеўскі**

Фота аўтара

---

(Працяг са стар. 4)




кам прыняў бы „новую" культуру СГР? Думаю, што не. І думаю, што беларуская меншасць у Польшчы з ахвотай яе ўспрымае. Рамантызм ваш праяўляецца ў тым, што „мерыце сілы на намеры", а не наадварот. У тым, што крытыкуецца БГКТ, няма нічога дрэннага. Так трэба. Але ж вы ў БГКТ не бачыце нічога станоўчага і пішаце няпраўду. „Мо хто з кіраўнікоў гэтае арганізацыі пахваліцца штодзённымі кантактамі з шырэйшымі кругамі народу?" — брыдка так пісаць. Не ведаеш, брат, рэчаіснасці, а шырыш такую дэмагогію. Далей. З ахвотай пачытаю часопіс для інтэлігенцыі, каб яшчэ выходзіў ён часцей, чым раз у год. А пакуль што чакаю „Ніву", якая ўжо ў панядзелак дойдзе да мяне. Нягледзячы на ўсё, жадаю поспехаў і чакаю адказу на пытанні, якія я паставіў год таму назад.

**Міхась Куптэль**

## ЦІЧЫРА ДЗЯКУЮ БЕЛАРУСКІМ СТУДЭНТАМ

З радасцю і хваляваннем прачытаў я ў „Ніве", № 49 за 1985 год, артыкул „Варшаўскія атрасіны". Узрадаваўся асабліва ад таго, што ратаваць беларускую культуру і гонар беларусаў у Польшчы хоча студэнцкая моладзь. Хацелася б верыць, што, пакуль што скромныя іскрычкі беларускага руху студэнтаў перародзяцца ў магутнае полымя, якое агорне ўсіх беларусаў у Польшчы, калі беларуская нацыянальная меншасць скіне з сябе комплекс горшасці, які ўбілі ім у галовы злыя людзі. Мяне радуе факт, што ў беларускі культурны рух актыўна ўключыліся беларускія студэнты — будучая беларуская інтэлігенцыя, якая мае магчымасці ўздзейнічаць на ўсіх беларусаў.

Падкрэсліваю гэта таму, што гісторыя беларускай інтэлігенцыі — асабліва балючая. У мінулым менавіта з інтэлігенцыі выходзіла найбольш адступнікаў, якія навучыліся рашаць „цалкі і ружнічкі", але ў душы застаўся маральны бруд. Праўда, што кожны з нас хоча жыць. Але ж не кожнай цаной. Не цаной выкідання з сэрца духоўных вартасцей. Таго, што павінна быць найдаражэйшым — мовы, на якой чалавек сказаў першыя словы, якую першую пачуў ад бацькоў.

Тыя, хто крытыкуе беларускую мову, найчасцей зусім яе не ведаюць. Мова беларуская сапраўды прыгожая. Хопіць пачытаць творы Якуба Коласа, Янкі Купалы і шмат іншых пісьменнікаў і паэтаў, каб пераканацца, колькі там прыгожага, колькі жыццёвай мудрасці і патрыятызму. Творчасць гэтая, як у люстэрку, адбівае лёс беларускага народа.

Няма чаго саромецца, што мы беларусы. Будзьма людзьмі сумленнымі, працавітымі, шануйма сваю мову, то напэўна і іншыя будуць нас шанаваць.

Яшчэ раз горача дзякую беларускім студэнтам за працу ў пашырэнні беларускай культуры.

**Васіль Бацкель**

Беласток

---

твор быў напісаны паміж 1249-1256 гадамі, калі землі Паўночна-Усходняй і Паўднёва-Заходняй Русі знаходзіліся ў татарскай няволі.

І фактычна, гады 1249-1256 былі вельмі трагічным часам на захопленых татарамі рускіх землях, ім найболей якраз адпавядала сказанае аўтарам „Слова", што тады „на Рускай зямлі рэдка пяяў аратай, але варанне пакрумквала часта, дзелячы труп'ё між сабою, а галіцы гоман заводзілі свой, на ежу ляцелі збіраючыся". Вінаваты ў гэтай трагедыі свае князі, якія міжусобнымі братабойчымі войнамі абяскровілі ды аслабілі айчыну, „а паганыя (інакш татары, бо полаўцы ў асноўным былі праваслаўнымі хрысціянамі — М.Г.) самі адны, з перамогамі навалiўшыся на Рускую зямлю, дань вымагалі па белцы з двара" (полаўцы ніколі не здолелі абкласці Русі данінамі, але такую даніну сцягвалі з Русі якраз татары — заўважае Л. Гумілёў). Такім чынам, паэт прыкладамі з мінулага і закамуфляванымі, іншасказальнымі вобразамі заклікаў усю Усходнюю Еўропу да яднання з краінамі Заходняй Еўропы на барацьбу супраць татараў. Пры тым ён паказваў, што яднацца трэба з чэхамі, немцамі, венецыянамі і грэкамі (еўрапейская частка Візантыі разам са сталіцай Канстанцінопалем былі тады ва ўладанні заходнееўрапейскіх крыжаносцаў і венецыянцаў). Значыць, аўтар „Слова" заклікаў яднацца ў тую кааліцыю супраць татараў, якую намагаўся стварыць папа рымскі Інакенцій IV (ягоны пантыфікат працягваўся з 1243 па 1254 гады). З гэтай мэтай папа ўзвёў у каралі ў 1253 г. вялікага князя літоўскага Міндоўга і князя галіцка-валынскага Данілу Раманавіча, а папскія дыпламаты рабілі старанні, каб прыхіліць да гэтай жа кааліцыі князя Аляксандра Неўскага, які тады княжыў у заможным Ноўгарадзе, а таксама іншых князёў Паўночна-Усходняй Русі.

Вось чаму ў „Слове" надзвычай красамоўна ўслаўляюцца князі: галіцкі Яраслаў Асмамысл і валынскі Раман Мсціслававіч — папярэднікі Данілы Раманавіча па княжэнні ў разлеглым Валынска-Галіцкім княстве, а таксама ўладальніка аграмаднага і заможнага Уладзіміра-Суздальскага княства, Усевалода — бацьку сварлівых князёў, якія ў палове XIII ст. панавалі ў Паўночна-Усходняй Русі. Тым больш не выпадкова ў „Слове" цэнтральнае месца займае Полацкае княства і яго князі — гэта ж вялікі князь літоўскі Міндоўг свой род выводзіў з княскай дынастыі Рагвалодавічаў і яго продкам лічыўся легендарны князь полацкі Усяслаў! Прытым варта адзначыць, што многія рысы ў вобразе Усяслава нагадваюць асобу Міндоўга — цэнтральную фігуру ў фармаванай папам кааліцыі супраць татараў.

Усё гэта дае падставу меркаваць, што аўтарам „Слова" быў высокаадукаваны саноўнік вялікага князя літоўскага Міндоўга. Ён быў чалавекам грунтоўна азнаёмленым з вельмі складаным і багатым канфлік-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 5)

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

тамі мінулым роднай яму Усходняй Славяншчыны, яе літаратурай, фальклорам, абычаямі, добра арыентаваўся ў мінуўшчыне і сучаснасці бліжэйшых і далейшых суседзяў Вялікага княства Літоўскага, не чужымі былі яму таксама справы тагачаснай міжнароднай палітыкі і густы ў еўрапейскай літаратуры і культуры. Паэт паходзіў з беларусамоўнай часткі Ноўгарад-Северскага або Трубачэўскага княстваў, якія непасрэдна межавалі з уладаннямі татарскага хана Батыя, таксама, як раней межавалі з полаўцамі. Гэтым землям таксама, як і Вялікаму княству Літоўскаму ды ўсёй Еўропе, пагражала смяротная небяспека з боку татараў. Хто ж тады мог ведаць, што праз некалькі год татарскім ханам уздумаецца рушыць у „жоўты паход“ у Малую Азію, на Багдад, а не ў Еўропу?

„Слова“ было напісана ў Навагрудку — тадышняй сталіцы Вялікага княства Літоўскага — падчас прабывання яго аўтара пры князі Міндоўгу. Рыцарскімі прыгодамі Ігара з 1185 г. ён пакарыстаўся як канвой для выказання важных палітычных думак цэлай партыі дзяржаўных дзеячоў пры Міндоўгу, якая была сарыентавана на Захад. Пра Ігаравы паход памяталі ўсе землі Усходняй Славяншчыны, пра яго пісалі летапісцы, мабыць, складаліся легенды і песні. Такі прыклад быў надзвычай зручны для распаўсюджвання ідэй і яднання ім прыхільнікаў, нават бяспечна было звярнуцца з заклікам: „Здароўя князям і дружыне, выступаючым за хрысціян на войска паганых!“ — гэта значыць: на татарскае войска. І прытым не баяцца быць патаемна зарэзаным прыхільнікамі татараў; а яны, несумненна, знаходзіліся ў акружэнні Міндоўга. Ды і не быць пакараным самім вялікім князем літоўскім, бо ён імкнуўся захоўваць мірныя суадносіны з ханам Батыем і яго сынам Сартаком і нічым не правацыраваць іх да нашэсця на Вялікае княства Літоўскае.

Неабходна дадаць і тое, што за імкненнямі папы Інакенція IV стварыць антытатарскую кааліцыю скрывалася яго намаганне праз унію падпарадкоўваць каталіцкаму Рыму праваслаўную царкву Усходняй і Паўднёвай Славяншчыны. Гэтыя імкненні Апостальскай сталіцы не карысталіся папулярнасцю на ўсходнеславянскіх землях. Таму з заклікам да яднання Усходняй Славяншчыны з Заходняй Еўропай у кааліцыю трэба было выходзіць вельмі асцярожна і ўмела, а яшчэ больш далікатна неабходна было прапаведваць ідэю уніі праваслаўя з каталіцтвам. І гэта па-майстэрску зрабіў невядомы па імені і прозвішчу наваградскі аўтар „Слова“, пра якое мой незабыўнай памяці прафесар і дэкан Беларускага дзяржаўнага універсітэта Міхась Ларчанка сцвярджаў: „Беларуская старажытная літаратура ў яе прагрэсіўным напрамку выйшла са „Слова пра паход Ігаравы“...

**Мікалай Гайдук**





Л. Тарасэвіч, 1985.

# СТАЛІЦА ТАМ, ДЗЕ Я

(Працяг са стар. 1)

выцкаму, ён жа сур'ёзны чалавек!

— *Скажы каму з нашых, што тваё мастацтва выкупляюць шведы, брытанцы, грэкі, амерыканцы, — не паверыць такі!*

— Мая маці з бацькам паверылі, я жыву з імі, у хатцы на Станцыі Валілы. Там і малюю цяпер.

— *Я, Лёнік, трохі жартам...*

— І я люблю жартаваць — гэта разумны занятак. Але пра бацькоў я тут — праўду над праўдамі: беларусы вераць гэткім удачам, за якімі відаць матэрыяльная карысць. Прыбагацеў я і таму вераць, што творчасць маю напраўду цэняць у свеце культуры.

— *Усе мы ад родзічаў далёкіх ад інтэлектуальнасці. На культуру яны глядзяць, як на забаву панскага дзіцяці або аздобу славутага кавалка хлеба на ўсё жыццё. Нядаўна вярнуўся ты з доўгай пабыўкі ў Швецыі. Як там табе, мастаку, жылося з тымі шведамі?*

— Яшчэ пытаеш!? Ты ж сам толькі што казаў мне, што няма культуры без багацця, а багацця без культуры. Лёгка вінаваціць бедны народ у тым, што ў яго нізкая культурнасць хоць, праўда, не пабагацее ён, застаючыся малакультурным. Гэта два канцы аднае палкі. Гэта і ключ, якім можна адчыніць таямніцу беларускага часу, а ў ім — беларускага лёсу.

Гаворачы пра Швецыю, калачуся з загадкаю: чаму ў такога культурнага і заможнага народу ёсць так мала цікавых мастакоў?

— *Тое, што ў заходніх газетах хваляць твае палотны, мяне перастае здзіўляць. Аднак, разам з тым, не пазбыўся я яшчэ аднаго здзіўлення, вельмі прыемнага для мяне: усюды ты выступаеш у сваёй натуральнай ролі беларуса!*

— Вось і з цябе, Сакраце, вылезла ўся „дзеравеншчына“! Сам скажы: як можна не быць беларусам, будучы беларусам, га?

— *А ці ж не бывае?*

— Так, але гэта ўжо псіхічная хвароба, у якую, напрыклад, каня называюць караваю або пацыенту здаецца, што ён стаў мышшу. У маім выпадку справа во яшчэ ў чым: калі ты круцель, то ты не мастак! Мастацтва пачынаецца ад поўнай шчырасці, дарэшты аголенай. Гэтак жа і ў літаратуры. Іконапісцы кажуць: хто не верыць у Бога, той не павінен маляваць ікону. Надзвычай трапнае гэта параўнанне.

Раз ты не шануеш бацькаўшчыну, не шануеш сваіх людзей, то не шануеш і сябе, глядзіш на сябе і сваё ганебным вокам і бярэшся схаваць тое пад чужы гонар. Якая ж тады можа быць гутарка пра шчырасць?! Лепей не барыся за пэндзаль ды ідзі ў халтурнікі.

— *Але на тваіх карцінах я не бачу людзей, постацей. На іх — подых ельніку, чарнота ўзаранага поля, бялізна бярэзніку, сум снежнага бяскраю... Словам, пейзаж.*

— Ага, а ці спрабаваў ты адказаць сабе на такое пытанне: ці існуе пейзаж, калі не глядзіць на яго чалавек? Свет без чалавека гэта не свет. Чалавек усюды, бо без яго нічога няма. Глядзім, скажам, на нешта такое, што ў чалавека мае назву камення. Ды гэтаму ж каменю ўсё роўна, як яго назвалі, і ці ўвогуле назвалі, ці заўважылі!

— *Чаму лес у цябе, чаму баразны поля, чаму белень бярозак?... Выпадковыя гэта дэталі?*

— Ну не! Як ты так можаш гаварыць? Я ж вырас у пейзажы, а не сярод небаскробаў. Маё адзінства з пейзажам гэтак жа натуральнае, як і тое, што я беларус менавіта. Акадэмія дала мне ўмельства паслугоўвацца мастацкімі спосабамі, дала яна мне, як гаворыцца, варштат. Але ніякая акадэмія нікога не ўчыніць мастаком, калі ў каго няма чагосьці такога, што завем талентам. А таленту не перайначыш, бо знішчыш яго; талент магчыма толькі развіваць. А ўмоваю яго развіцця ёсць менавіта шчырасць, якую трэба параўнаць з глебаю — без глебы нямаш хлеба! Пра ўсё гэта я гавару таксама і таму, каб сказаць, фактычна, банальнае: мастак чэрпае з сябе, як літаратар усё жыццё піша пра сябе, хоць можа апісваць звяроў ці самалёты. Усё пра сябе! Піша сваімі пачуццямі і сваім светабачаннем, розумам сваім і сэрцам сваім. Няўжо гэта табе няяснае? Таму мастак-беларус, які вельмі ж заеўся быць небеларусам, толькі перашкаджае гэтым свайму развіццю, нярэдка спыняючы гэты працэс у сабе, і сам ён не агледзіцца, калі зробіцца нікім і ні-




# ПА КАРАВАЕВЫХ СЛЯДАХ

Быў халодны вечар. У твар нясло дробным снегам. Вылез я з нагрэтага аўтамабіля і бездапаможна разглядаўся па вуліцы вёскі Ставішчы, якія фактычна спалучыліся ўжо з чыгуначным пасёлкам Чаромха.

Ад Валі і Яна Грыцюкоў, маіх сяброў з Чаромхі, я ведаў, што ў Ставішчах трэба мне шукаць Палагею Шульжык, па бацьку Каравай, якая з'яўляецца роднай сястрой Рыгора Каравая, але толькі па бацьку, бо маці ў іх былі розныя.

Неўзабаве пасля вайны і мне давялося крыху пажыць у Ставішчах, калі лясныя банды прагналі настаўніка з нашай вёскі, з Вулькі Нурэцкай, і бацька паслаў мяне на далейшую вучобу ў чацверты клас пачатковай школы менавіта ў Чаромху. Правучыўся я там усяго ледзь паўтара года і тады жыў я ў Ставішчах. Гэта звыш дзесяці кіламетраў ад маёй роднай вёскі. Пасля, ужо журналістам, пабываў я ў Ставішчах, здаецца, толькі адзін раз. Дык стаяў я пасярэдзіне брукаванай вуліцы і цераз надакучлівую заслону снегу ўзіраўся ў незнаёмую мне фактычна вёску, якая вонкавым выглядам нічым асаблівым не адрознівалася ад сотняў іншых вёсак, раскінутых па нашай Беласточчыне. Таксама, як і ў тых вёсках, у Ставішчахназіраў я аднолькавыя прызнакі спакойнага і заможнага штодзённага бытавання. Жыве тут звыш ста гаспадароў. Толькі мясцовая гаворка ў Ставішчах, аб чым я ведаў, вельмі ж своеасаблівая і непаўторная. Гэта адгалінаванне паўднёвапалескіх зацвярдзелых гаворак беларускага моўнага абшару.

Хацелася мне сустрэць нейкага старэйшага, разважлівага чалавека, які памятаў бы падзеі ваенных гадоў. Толькі — дзе, у якую хату пастукаць? І раптам паявіўся на вуліцы сапраўды старэйшы селянін. Я звярнуўся да яго на іхняй, ставішчукоўскай гаворцы:

— Чы зналы вы Грышку Коровая?

Селянін моўчкі паглядзеў на мяне і нічога не сказаў. Я тады хутчэй працягнуў яму свой журналісцкі білет:

— Я з „Нівы“.

— Я і без гэтага дакумента ведаю, што ты — сын Максіма Рудчыка, з Вулькі Нурэцкай, што быў паслом...

— А вы — хто? — разявіў я рот ад здзіўлення.

—А табе навошта гэта ведаць!

— Ну, для памяці, — выняў я блакнот.

— І для памяці не трэба. Схавай ты лепш гэтую сваю запісную кніжку, бо ад мяне і так пра Каравая нічога не даведаешся...

— А што, вы яго не ведалі?

 

## Беларускі фальклор

Выгляд вынятага з печы каравая быў свайго роду прагностыкам аб будучым жыцці маладой пары. Румяны і высокі — прадвяшчаў ён добрае, згоднае і заможнае жыццё новай сям'і. Прыпалены, а тым больш трэснуты — сведчыў ён аб тым, што жыццё маладых будзе горкае і нязгоднае. Зразумела, што нават пры дрэнным выглядзе каравая каравайніцы пазбягалі публічнага выказвання песімістычных прагнозаў, тым болей, што, як правіла, прысутнічала тут маці маладой, а нярэдка заглядала ў кухню і сама маладая.

Дрэнны выгляд каравая гаварыў вельмі дрэнна пра каравайніц, і таму сярод іх панаваў прыгнечаны настрой, а часам нават яны ўзаемна абвінавачваліся:

„А як жа, — гаворыць Галена Баршчэўская з вёскі Багнюкі, — хадзіла я ў каравайніцы ні адзін раз. Бывало і такое, што той каравай, ні тут гаворачы, возьме і ні ўдасцэ: прыгарыт або разваліцца. У такім выпадку, бывало, усе каравайніцы так і ахнут. Пастаят, памаўчат, а после і начнут прыгаварвацць адна адной: „а гэто ты так кепско жондзіла", „а я казала рабіць па-другому", „а каб былі мяне паслухалі, то было б напэўно добрэ". Бо яно ужэ так е, што калі што добрэ, то кажды прыпісвае сабе, а як кепско, то валіт на другіх. Вывало і так, што даходзіло да сваркі і толькі водка ўсё лагодзіла. Але здаралосё, што і водка ні памагала і такія каравайніцы ставаліся ворагамі на цэлы месяцы або і лета".

Найчасцей, аднак, вопытнасць жанчын прыносіла добрыя вынікі, і каравай атрымоўваўся такі як трэба: высокі і румяны. У такой сітуацыі сярод сабраных была дасканалая атмасфера. Да каравайніц далучаліся іх мужы, якія прыходзілі з гарэлкаю. Не шкадавалі гарэлкі і гаспадары. Пачыналася свабодная бяседа. Жанчыны паўтаралі ўсе праспяваныя дагэтуль тыпова каравайныя песні. Апрача гэтага, спявалі песні дзявоцкія, кавалерскія і сямейныя. Не пазбягалі і песень гумарыстычных, у тым ліку і вульгарных. У такой сітуацыі найчасцей маладая пакідала хату і ішла да найбліжэйшай сяброўкі. Яе настрой у перадшлюбны вечар быў зусім адменны ад таго, які панаваў сярод каравайніц.

Тым часам у вясельнай хаце на працягу некалькіх гадзін утрымоўваўся клімат бесклапотнай забавы з песнямі, часта непрыстойнымі жартамі, танцамі і дзікаватым гойсаннем.

Практычна амаль ва ўсіх беларускіх вёсках каравай меў калектыўны характар. Выключэннем з'яўлецца звычай, выступаючы ў вёсцы Барысаўка. У гэтай вёсцы кожная з вясельных сванек пякла ў сваёй хаце ўласны каравай і прыносіла яго на вяселле. Выступаў свайго роду конкурс на каравай, у якім прымалі ўдзел, выказвалі апініі і ацэнкі ўсе вясельнікі. Той каравай, які атрымліваў найбольш пахвалаў, ставіў сват перад маладымі. Іншыя караваі лічыліся звычайнымі вясельнымі пірагамі.

З усяго дагэтуль сказанага вынікае адназначна, што каравайны абрад быў, бадай, найбольш каларытны і паэтычны ва ўсім вясельным рытуале. Трэба шкадаваць, што гэты абрад практычна амаль цалкам знік з сучаснага вяселля, праўда, у многіх вёсках ставяць перад маладымі купленыя ў гарадах высокія торты і т.зв. „сукачы", але гэта свайго роду карыкатура на даўні каравай, які быў прыгожым прадуктам і сімвалам чалавечай сардэчнасці і народнага ўмельства.

**А. Баршчэўскі**

## СОННІК

5

**Акаліцы** — задавальненне.
**Акацыя** — у кветках — новая заваёва ў каханні; завяўшая — нервовая хвароба.
**Акварыум** — клопаты, цяжкасці.
**Акеан** — далёкае падарожжа.
**Акно** — выглядаць — візіту не будзе; уваходзіць — няўдачная справа; адчыненае — лёгкая пратэкцыя; зачыненае — перашкоды ў планах; свеціцца — неспакой; вітрына — дабрабыт.
**Акопы** — зямельная маёмасць.
**Акуляры** — глыбокая старасць; купляць — асцярожнасць; згубіць — пільнуй свае ўласнасці.
**Алеандр** — пашана.
**Алебастр** — зманлівыя спадзяванні.
**Алей** — задавальненне; піць або разліць — небяспечная хвароба.
**Алей для націрання цела** — пазбудзешся фальшывых сяброў.
**Алень** — бяжыць — даходны занятак або рамяство; страляць у яго — спадчына, пашана; бачыць яго — даход; статак аленяў — здабудзеш многа прыяцеляў.
**Алея** — ісці ёю — неспадзяваная спадчына; бачыць яе — доўгае жыццё.
**Алібі** даказваць — будзеш мець дачыненне з уладамі.
**Аліменты** плаціць — прыкрае спатканне; атрымаць — шчаслівы выхад з цяжкай сітуацыі.
**Аліўка (фрукт)** — добрыя інтарэсы; есці — хатнія турботы; рваць — надта паспешліва судзіш іншых; дрэва — хуткі шлюб.
**Алкаголь** піць — табе здрадзіць сябра.
**Аловак** — замілаванне да мастацтва.



Вечарэе. Фота Юркі Трачука.

(Працяг са стар. 7)

## ПА КАРАВАЕВЫХ СЛЯДАХ

была, я наймалодшая, ужо ад другой жонкі нашага таты, Сафрона. Найстарэйшы быў брат Пятро, з 1911 года нараджэння. Два гады пазней нарадзіўся Грышка.

— Значыць, гэты партызан? — удакладніў я.

— Ага, хай будзе, што партызан, бо ён сапраўды цэлую акупацыю, аж да вызвалення, праблукаўся ў лесе.

— А яшчэ ж і ў Чырвонай Арміі ваяваў, — перапыніў жонку дзядзька Мікалай. — Аж да Берліна дайшоў.

Цётка Палагея паглядзела на свайго мужа з дакорам, як бы хацела сказаць, каб лепш маўчаў, бо няма чым хваліцца, а сама працягвала:

— Пасля яшчэ нарадзіліся дзве мае сястрычкі — Наталка і Манька, — яна так іх і назвала: Наталка і Манька. — Наталка цяпер у Брэсце, а Манька — ў Сухадолах.

— Сухадолы, — зноў уключыўся яе муж, — гэта тут пасуседску, але ўжо на той бок граніцы.

— А дзе ваш Грышка? — пацікавіўся я.

— Ён пасля вайны жыў у Брэсце, — адказала мне дачка Шульжыкаў. — Я была ў дзядзькі Рыгора ў гасцях. Тады ён быў ужо на пенсіі, але яшчэ працаваў парт'е ў нейкім рэстаране. Стаяў перад дзвярыма ў гэтакім парадным мундзіры, як нейкі важны генерал, і ад яго залежала, ці вечарам каго пусціць у рэстаран, ці не пусціць. Цяпер мы не ведаем, што там з ім, бо даўно не ездзілі ў Брэст, а лісты дзядзька Рыгор неахвотна піша.

Вось бяда якая! — падумаў я. — Каб я ведаў аб гэтым перад маёй паездкай у Брэст! Што ж шкодзіла б наведаць рэстаран, у якім парт'е з'яўляецца даўнейшы партызан Рыгор Каравай? Толькі чаму так мала пра яго, пра Грышку Каравая, гаварыў мне тады Дзмітры Макараў?

І тут я прыгадаў адзін фрагмент з успамінаў майго сябра, Яна Грыцюка з Чаромхі.

— Трэба табе ведаць, калі будзеш пісаць пра Каравая і Макарава, — гаварыў ён, — што яны адзін другога не надта любілі. Макарава прыслалі сюды з Масквы, са штаба партызанскага руху. А Каравай быў тутэйшым вясковым хлопцам, без ваеннай падрыхтоўкі і без адукацыі, крыху нервовы чалавек, які хутчэй страляў, чымсьці думаў. І ён неахвотна падпарадкаваўся Макараву. Хацеў сам камандаваць атрадам, які ён сам і стварыў...

Калі я так у думках перабіраў гэтыя сяброўскія заўвагі, у хаце Мікалая Шульжыка адазваўся яшчэ адзін чалавек, Сцяпан Шульжык, родны брат Мікалая, які дагэтуль моўчкі прыслухоўваўся да нашай гутаркі.

— А вы яшчэ не ўспомнілі пра Кольку Каравая. У час акупацыі ён працаваў кандуктарам у пасажырскіх паяздах і ад яго Грышка атрымоўваў весткі аб руху на чыгунцы Беласток — Седльцы і Чаромха — Брэст.

Тут і я ўспомніў, што ў вёсцы Мікулічы адзін з партызанскіх сувязных, аб якім пазней будзе яшчэ гаворка, таксама гаварыў мне пра нейкага Каравая — кандуктара на лініі Брэст — Чаромха, якога пазней ён бачыў у партызанах.

Я навастрыў вуха, але Сцяпан Шульжык пачаў гаварыць аб нечым іншым.

— Тут была такая гісторыя, што наш швагер Пятро, значыць, старэйшы брат Грышкі Каравая, пры Саветах быў старшынёю сельсавета ў Ставішчах. Яго паставілі на гэтую пасаду таму, што яшчэ пры старой Польшчы ён праводзіў тут камуністычную агітацыю і яго нават у Высокім дэфензіва катавала, нафту ў нос пампавалі, каб да камуністаў прызнаўся і сваіх саўдзельнікаў падполля выдаў...

Тут мне вобраз сувязяў Караваевай сям'і з палітычна-грамадскім становішчам таго часу пачаў крыху праясняцца. Значыць, Грышка Каравай вымушаны быў уцякаць у лес не толькі таму, што задзерся з нейкім нямецкім жандарам у Плісе на вяселлі. Але аб гэтым пагутарым ужо наступным разам, калі я прадоўжу свой шлях па Караваевых слядах.

**Віктар Рудчык**



 

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Яраслаў Пархута

## Зімовыя грыбы

На парозе стаяў бацька і радаваўся:

— Падласка ацялілася! Толькі хлеў адчыніў, як чую: ля сцяны, у саломе, нехта варушыцца. Пасвяціў, а гэта ён — бычок. Лапавухенькі, з белай зорачкай на лбе...

Алеся болей не слухала, ухапіла бацькаў ліхтарык і выскачыла з хаты. А прыбегла ў хлеў — бычок стаяў ужо ля Падласкі на каленцах і тоўк мысай у вымя. Неўзабаве прыйшла маці — прынесла Падласцы пойла. Следам за ёю з даёнкай з'явілася і баба Домна...

Калі за сталом поўным ходам ішла гамонка пра Падласку і яе сынка, да іх завітаў дзядзька Тамаш. На ім была леснікоўская, з кукардаю, шапка, новая, з нагоды нядзелі, фуфайка, сінія нагавіцы і бліскучыя гумавікі.

— Позна снедаеце! — нібы папракнуў ён.

— Забавіліся, — прызнаўся бацька. — Падласка бычка прывяла. Дык мы ў адведкі хадзілі. А ты не тапчыся ля дзвярэй, сядай з намі!

— Не! — адмовіўся дзядзька. — Хацеў Алесю ў грыбы запрасіць. Учора згледзеў: у Ласіным лагу грыбы з'явіліся!

— Якія грыбы зімою? — не дала веры маці.

Алесі таксама дзіўнай падалася дзядзькава прапанова. Пра тое, што ёсць вясеннія грыбы, летнія ды асеннія, — ведала. А зімовыя? І чуць не чула, і бачыць не бачыла. Няйначай дзядзька жартуе.

Але ён сказаў:

— Я сур'ёзна! Вунь конь ля плота чакае. Калі хочаш — паехалі...

Раптам у хаце зрабілася весела. Усе быццам паверылі, што дзядзька гаворыць праўду, пачалі таксама раіць Алесі паехаць з ім у Ласіны лог. І калі яна не назбірае тых грыбоў — такой бяды! Хоць праедзецца трошкі.

І вось яна ў санках. Конь ляціць па наезджанай дарозе. Пацокваюць падковы. Парыпваюць палазы. А конь быццам знарок скідвае з падкоў снег проста ў сані. Дзядзька нацягвае лейцы:

— Не хуліганы!

Конь слухаецца, сціхае бег і перастае кідацца снегам. Дзядзька перадае лейцы Алесі, трошкі адсоўваецца, каб ёй спраўней было кіраваць канём, аблакочваецца на салому і глядзіць, як узбоч дарогі бягуць сасонкі. Алеся трошкі ўстае, спрабуе крутнуць над галавою лейцамі і радуецца: ёй даверылі каня.

Конь таксама нібы ўзрадаваўся, нібы хацеў дагадзіць Алесі — бег роўна і спраўна, пакуль не апынуліся на прасецы. Там снег не такі ўбіты, рыхлы, а часам і зусім як намоклы цукар, і конь пачаў сцішаць ход.

— Далей рушым балотам, — прапанаваў дзядзька. — Вунь чарнее лясок, нібы выспачка. Гэта і ёсць Ласіны лог.

Алеся хмыкнула. Яна і цяпер не магла паверыць у тыя грыбы, тым болей, што дзядзька больш нават і не заікваўся пра іх.

Нарэшце яны ў Ласіным лагу. Тут ужо давялося і ёй саскочыць з саней: снегу там амаль не было. Мінулі невялікую высечку, прасунуліся яшчэ трошкі нізовінкай і спыніліся.

— Тут і будзем збіраць.

Ішла следам, адчувала нага-

(Працяг на стар. 10)

С. Сцяпанаў

## ПАРТРЭТ

Аднойчы на ўроку малявання настаўніца запрапанавала вольную тэму: кожны можа маляваць тое, што захоча.

Я намаляваў, як наша каманда забівае гол працаўнікам. А потым пачаў глядзець, што малююць іншыя. Але што намаляваў мой лепшы сябар Сашка Крук, я не бачыў, таму што ён сядзеў далёка.

Але я часта паварочваўся да Сашкі і падміргваў яму. Каб я ведаў, што ён малюе, ніколі б не аглядваўся.

У канцы ўрока настаўніца сабрала ўсе малюнкі і пачала іх паказваць. Мой усім спадабаўся. А потым яна паказала, што намаляваў Сашка Крук. Ён намаляваў лапавухага, лахматага хлопца, дарэчы, зусім не падобнага да мяне, а падпісана было: „Партрэт майго сябра Уладзіка Галавача".

Я голасна сказаў:

— Зусім не падобны!

Тут увесь клас пачаў спрачацца. Адны гаварылі, што на партрэце выліты я, другія — нічога супольнага. А настаўніца сказала, што нешта падобнае ёсць.

Пачаўся перапынак. Я адразу ж падышоў да Сашкі.

— А яшчэ сябрам называешся! — сказаў я. — Ты навошта маю карыкатуру зрабіў?

— Чаму карыкатуру? Я цябе сур'ёзна намаляваў! — сказаў Сашка.

— Ці ж я такі? — узлаваўся

(Працяг на стар. 10)



У новай школе ў Дубяжыве ёсць ужо вельмі багаты куточак жывой прыроды. Асабліва багата прадстаўлены расліны: яны і на падлозе, і на спецыяльных падстаўках, і вельмі прыгожа развешаны на сценах. Заўсёды дзяжурны пільнуе, каб кветкі былі падлітыя. Фота Я. Чэрнякевіч.

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

## ЦІ ПАЗЯХАЕ БЕГЕМОТ?

Сяджу спакойна,
Без турбот.
Ды нехта шкроб у дзверы.
— Ці пазяхае бегемот? —
Пытае зайка шэры.

Маўчу,
Вады набраўшы ў рот,
Прыкінуўся
Нязнайкай.
— Ці пазяхае бегемот? —
Касіцца хітры зайка.

Разгладзіў вусы рыжы кот,
Яго ніхто не клікаў.
— Ці пазяхае бегемот? —
Прыжмурыўся мурлыка.

І крот,
Вядомы абармот,
Знайшоў
Нарэшце вочы.
— Ці пазяхае бегемот? —
Дазнацца дужа хоча.

Бугай,
Аглухлы ад грымот, —
Хацеў басці маланку.
— Ці пазяхае бегемот? —
Як зараве ля ганку.

Настырны дужа вы народ,
Дакучылі да смерці.
„Ці пазяхае бегемот?" —
Ідзіце ды праверце.

А дзе жыве
Той бегемот? —
Усе спыталі хорам.
— А там,
Дзе жыў ён дзвесце год.
Быць невукамі сорам!

Пакажа вам жыраф
Раку,
Дзе твань і цягамота.
Ідзіце проста ў Афрыку
Пабачыць бегемота.

— Цяпер,
Вам дзякуй,
Знаем дзе.
У Афрыцы, вядома.
Ды хто
Туды нас павядзе,
Бо ў Афрыцы ж — не дома?!
Мы можам згінуць без пары,
Нас можа з'есці заедзь.
— Вы ўсе разумныя, сябры,
А самы хуткі заяц...
Ідзіце.
Году не міне —
Здаволіце ахвоту.
Ды перадайце ад мяне
Вітанне бегемоту.
Вам сам
Шаноўны бегемот
Адкажа на пытанне.

І дружна рушылі ў паход
Сябры
Назаўтра ўранні.
Нялёгка пакідаць жытло,
Ды знаць усё —
Цікава.
То сонца ўперадзе ішло,
То некуды ўцякала.

Сябе б саміх
Не ашукаць,
Ішлі,

(Працяг на стар 10)

 

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### ЗІМА І ЛЕТА

Сустрэлася з Летам Зіма:
— Нідзе ў цябе ладу няма!

Як толькі з'явілася ты,
Усе мкнуцца ў цянёк, пад
кусты.

А ходзяць — нага за нагу.
Я нават глядзець не магу!

Вось я калі стану ізноў, —
Не ўседзіць ніхто ля кустоў!

Трушком пабягуць і дзяды,
Не горш чым які малады.

Для моладзі будзе размах:
На лыжах бяжы, на каньках!

Згадзіся са мною, — мілей
Для ўсіх я на свеце людзей!

Смяялася Лета ў адказ:
— Не знаю, мілейшы хто з нас!

Ніяк зразумець не магу:
Чаму ад цябе ўсе бягуць?!

**Уладзімір Дубоўка**

*1. Навучыцеся прыгожа чытаць верш.*

*2. Прачытайце яго з падзелам на ролі. Папярэдне вызначце радкі, якія хто павінен чытаць.*

*3. Пастаўце ў класе сцэнку паводле верша „Зіма і Лета" з удзелам Аўтара, Зімы і Лета.*

*4. Прачытайце. Знайдзіце словы, якія абазначаюць: а) назвы людзей, звяроў, птушак (адказваюць на пытанне хто?), б) назвы рэчаў, раслін, з'яў (адказваюць на пытанне што?).*

### ЗІМА Ў ЛЕСЕ

Ляснік ідзе па лесе. Мяцеліца замяла сцяжынкі. Паціскае мароз. Дрывасекі з піламі і сякерамі працуюць пры вырубцы дрэў. Вецер памалу калыша сосны. Не відаць лясных жыхароў. Мядзведзь спіць у берлагу. Ліса схавалася ў нару. На рабіне сядзіць гіль. Побач цінькае сініца. Нечакана застракоча сарока. Зімовы лес жыве сваім жыццём.

**Словы, якія абазначаюць людзей, жывёл, расліны прадметы, рэчы, з'явы, называем назоўнікамі (rzeczownikami): чалавек, Зося, заяц, груша, лыжка, паліто, вецер. Назоўнікі адказваюць на пытанні хто? — аграном, Віця, муха; што? — аловак, шафа, мароз.**

*5. Прачытайце назоўнікі.*

Плуг, рукавіцы, жарабя, Галя, авадзень, пятрушка, сталяр, дуб, муляр, гром, пчала, кацяня, ясень, елка, спытак, чмель, цяля, камар, маланка, нож, гук, касілка, ягня, агарод, маляр, будынак, Косця, акуляры.

*Выпішыце назоўнікі групамі:*

(Хто?)..., ..., ... — гэта людзі.

(Хто?) ..., ..., ... — гэта маладыя жывёлы.

(Хто?) ..., ..., ... — гэта насякомыя.

(Што?) ..., ..., ... — гэта расліны.

(Што?) ..., ..., ... — гэта прадметы.

(Што?) ..., ..., ... — гэта з'явы.

*6. Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі. Пастаўце да іх пытанні. Якія літары трэба ўставіць замест кропак?*

### БАБУЛЬКА

Ішлі дзеці са школы. ...перадзе ішла бабулька. На вуліцы было слізка. Бабульцы ісці было цяжка. Яна спынялася на кожным кроку. Валодзя і Міша аддалі свае сумкі таварышам. Хутка хлопчыкі падбеглі да бабулі і ...зялі яе пад рукі. Яны давялі бабульку дадому... . Бабулька ласкава паглядзела на хлопчыкаў... і падзякавала ім.

**(Працяг са стар. 9)**

## ПАРТРЭТ

я. — Калі хочаш ведаць, я кожны дзень прычэсваюся. Гэта толькі сёння я грэбень забыўся. А ты і цешышся... Ідзі забяры ў пані свой малюнак і падпішы: „Аўтапартрэт!"

— Але ж ён на мяне зусім не падобны! — запратэставаў Сашка.

— Якая розніца, падобны ці не! — сказаў я. — Ты ж не Рэпін. — Табе можна і непадобнага маляваць.

Але Сашка адмовіўся мяняць назву.

Я цэлы тыдзень з ім не размаўляў, а калі ў нас зноў быў урок малявання, сказаў настаўніцы:

— Давайце зноў маляваць на вольную тэму!

І настаўніца згадзілася.

Я напісаў на лісце сваё імя і прозвішча і пачаў думаць, як назваць будучы малюнак: „Партрэт майго сябра" ці проста „Партрэт Сашкі Крука".

„Нічога, потым падпішу", — вырашыў я і пачаў маляваць. Спачатку я зрабіў круглыя вочы і розныя — адно большае, другое меншае, нос гакам, як у Бабы-Ягі, вушы, як у Чабурашкі. І атрымаўся агульна як страшыдла.

Тут настаўніца нечакана пачала збіраць працы.

Потым мы разглядалі ўсе малюнкі. А потым усе ўбачылі мой малюнак і адразу засмяяліся.

— Гэта што за страшыдла? — спытала настаўніца. — І падпісана: „Уладзік Галавач". Уладзік, што, гэта ты і ёсць?

Усе засмяяліся яшчэ гучней, і толькі тут я зразумеў, што забыўся падпісаць малюнак.

І я крыкнуў:

— Гэта партрэт Сашкі Крука!

Але ў шуме ніхто мяне не пачуў...

З Сашкам мы, вядома, потым пагадзіліся. Я нават дазволіў яму яшчэ раз мяне намаляваць, але перад тым прычасаўся.

## Пішуць школьнікі

**ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!**

*Раскажу табе аб Калядзе ў нашай хаце.*

*Ад раніцы ўсе ў нашай хаце рыхтаваліся да Каляды. Я дапамагала маме гатаваць калядныя стравы. Потым тата прынёс мяшок з сенам і сказаў, што гэтае сена развозіць каляда. Мы падаслалі сена пад белы абрус. І ўсе чакалі зоркі. Калі зорка засвяцілася, мы селі за стол.*

*Я выцягнула саломку. Яна была доўгая і жоўта-зялёная. Гэта значыць, што я буду доўга жыць, а жыццё маё будзе трохі вясёлае і трохі сумнае.*

*У нас было 9 страў: грыбны боршч, марынаваныя селядцы, селядцы з цыбулькаю ў алеі, карп, рыбныя катлеты, кісель, аладкі з кампотам з яблык, куцця з макам. Я ўсе гэтыя стравы каштавала. Найбольш мне смакавалі селядцы з цыбулькаю ў алеі. У час вячэры ў нас быў прыемны настрой.*

*Потым я памагала маме прыбраць са стала, а затым з мамай і бабуляй мы спявалі калядныя песні. Я навучылася новую калядку. Яна вельмі прыгожая.*

*Гэты вечар — самы любімы мой вечар ва ўсім годзе.*

**Бажэна Філіпюк,**
Вуч. 6 класа з Трасцянкі

**(Працяг са стар. 9)**

## ЦІ ПАЗЯХАЕ БЕГЕМОТ?

**Ва ўсіх пыталі,
Як бегемота адшукаць
Альбо гіпапатама?
Яго знайшлі, нарэшце,
Там,
Дзе нізка
Звісла неба.
Разбуджаны гіпапатам
Скрыўўся:
— Што вам трэба?**

**Якраз
Не ў час
Прыйшлі яны.
Не ў госці ж да суседа.
Таўшчэзны
Бегемот ляны
Драмаў пасля абеда.
І гэткая дрымота
Найшла на бегемота,
Так смачна
Раптам пазяхнуў
І — ўсіх цікаўных
Праглынуў.**

**Цяпер не маю я клапот.
А знаць каму ахвота,
Ці пазяхае бегемот?
Спытайце ў бегемота!..**

**Рыгор Барадулін**

**(Працяг са стар. 9)**

## Зімовыя грыбы

мі спружыністую, толькі тамсям прыцярушаную сняжком зямлю, і ёй здавалася, што ступае ў невядомае царства. Яшчэ здавалася, што нехта шаптаў ёй: ідзі, ідзі, Алеся, ідзі! Толькі не палохай дрэў. Яны цяпер, узімку, спяць. Не пужай птушак. Няхай займаюцца сваімі справамі.

— Ачніся, Алеся!..

Ах, сапраўды, яна нібы заснула! Спынілася наўпроць старой ліпы, стаіць і не бачыць, што робіць дзядзька. А ён прысланіў да камля шапку і нажомскладанчыкам зразае ў яе жаўтлявыя, з падпалінкай, грыбы.

— А ты не верыла! — кажа ён. — Тут яны часта пракідваюцца. На пачатку зімы асабліва. А калі стаяць адліжныя дні, то іншы раз і потым натрапіць можна.

Алеся пазірала, як асыпаюцца ў шапку грыбы, і не верыла сваім вачам. Апенькі былі і ў два злотых, і ў пяць, і нават большыя. Падставіла далонь і адразу пачула халадноваты дотык. Нахілілася, каб панюхаць. Нямоцна, але прыемна пахлі зімовыя грыбы. У тым паху было нешта ад ляснога ветру, асінавай кары і зялёных імхоў.

Яна азірнулася: апенькі павінны і на пнях расці.

І. праўда. Ля гонкай вольхі стаяў пачарнелы пянёк, па ім падымаўся ланцужок грыбоў. Наверсе ланцужок разрываўся, грыбы збегаліся ў гурт і туліліся адзін да аднаго, нібы хацелі ў тым гурце як мае быць сагрэцца.

Яна падбегла да пнянька, радасная, усхваляваная, а калі наблізіўся дзядзька, узяла з яго рук складанчык і сама зрэзала ў шапку грыбы.

Калі вярталіся да саней, дзядзька ажно ўсклікнуў:

— Бач ты іх! Пахаваліся! А мы вас і адтуль дастанем!

І паказаў Алесі на старую ліпу. З дупла дрэва, як цікаўныя чалавечкі, пазіралі на свет грыбы. Яны былі трошкі святлейшыя за тыя, што раслі на пні, больш празрыстыя, але мелі гусцейшы пах.

...Зімовы дзень кароткі. Алеся сядзела ў санях, трымала шапку з грыбамі і здзіўлялася: калі гэта паспеў месячык?

Дзядзька Тамаш утуліў галаву ў фуфайку і, лежачы, кіраваў канём. Конь ішоў марудна. А выбраліся з лесу на ўбіты шлях, зноў паляцелі ў сані камякі зляжалага снегу.

Алесі раптам згадалася хата, цёплая і ўтульная, успомнілася, што недзе ў печы, у гліняным гаршку, выстойваецца малодзіва, і ёй захацелася хутчэй дадому.

### АДГАДАНКА




*Прачытай, што тут напісана. Такая адгаданка называецца рэбусам. У ёй трэба пазнаць, што намалявана на асобных маленькіх рысуначках і запісаць гэта словам. Коска перад рысункам абазначае, што трэба скрэсліць першую літару ў назве малюнка, а калі пасля — дык апошнюю. Калі ў рамачцы пададзены над малюнкам лічбы, гэта значыць, што ў такім парадку павінны стаць літары ў слове з пададзенага ніжэй малюнка. Спрабуйце. Адказ знойдзеце ў наступным нумары.*



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

 

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

### ЮРАЧКА

*Беларуская народная песня*

І сталяр Юрка,
І маляр Юрка,
І шавец Юрка,
І кравец Юрка, —
Сабраліся Юркі
Да адной дачуркі.

Чаму, Юрачка,
Ты не жэнішся,
Прыйдзе зімачка,
Дзе ты дзенешся?

У мякіначку
Не ўкапаешся,
У саломачку
Не схаваешся.

Чаму, Юрачка,
Ты не жэнішся,
Прыйдзе зімачка,
Дзе ты дзенешся?

А я ўлетачку —
Пад паветачку —
А я ўзімачку —
Пад пярыначку.



У наш час Сізіфу пашанцавала б.

## НАЎКА



Яго рука.

### НЕ ГАВАРЫ ГОП

Хворага прывезлі з аперацыйнага.

— Слава Богу, усё скончылася, — прашаптаў ён.

— Не будзьце так упэўнены, — сказаў сусед, — хірург забыў ува мне губку, і ім давялося мяне зноў рэзаць.

— А ўва мне пакінуў інструменты, — адазваўся яшчэ адзін хворы.

У гэты час хірург заглянуў у палату:

— Ніхто не бачыў майго капелюша?

### НУ І ДЗІВА

— Мамачка, можна, я схаджу ў заапарк, пагляджу на малпаў?

— Яшчэ чаго! Ты ж яшчэ цётку не бачыла, якая да нас пагасцяваць прыехала.

### ДЗЕ ЛЕПШ, ДЗЕ — ГОРШ

Сядзяць маці з дачкою на пячы, грэюцца. А на двары зіма лютуе.

— Як там нашаму беднаму бацьку на рынку гандлюецца ў такі мароз? — спагадліва ўздыхае дачка.

А маці:

— Бацьку чэрці не возьмуць, вакол воза абдзяжыць ды й нагрэецца. Не тое што нам — дзе ні сядзь, скрозь пячэ.

### З „Весніка Задрыпоніі"

#### КРАЙНЯЯ ДАБРАЗЫЧЛІВАСЦЬ

Жыхар г. Цудава А. Тудыловіч, убачыўшы чаргу, спытаў, хто крайні. Б. Сюдыловіч адказаў, што прасілі больш не станавіцца, але што ён можа ўступіць яму сваю чаргу на нейкі час.

#### ПРАВІЛА ДУБОВІЧА

Будзь вялікадушны — выбачай падначаленым свае памылкі.



То снедаю, то абедаю — і пагуляць няма калі.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У філармоніі выступала спявачка. Арвідсон крыху спазніўся, і капельдынер не пускаў яго, паколькі канцэрт ужо пачаўся.

— Паслухайце, — узмаліўся Арвідсон, — вы толькі крышачку прыадчыніце дзверы, і я праслізнуся ў шчыліну зусім непрыкметна.

— Я б з задавальненнем, але баюся, што рэшта слухачоў выслізнецца праз шчыліну з залы, — адказаў капельдынер.

*

У салуне гуляюць у покер.

— Я выйграў, — гаворыць адзін з партнёраў. — У мяне чатыры тузы.

— Не, выйграў я, — пярэчыць іншы. — У мяне дзве дзесяткі і шэсць патронаў у кольце.

*

Пры падлёднай лоўлі адзін рыбак праваліўся. Пакуль яго выцягвалі, ён страціў прытомнасць. Праз некаторы час, ужо апрытомнеўшага, сябры супакойваюць:

— Не сумуй — каб мы не ўлілі табе шклянку каньяку, ты б замёрз.

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Кожны на яго месцы засумаваў бы: выпіць такі добры каньяк у непрытомным стане...

### ВОСЬ ЯНО ШТО

— Глядзі, —
Іван гаворыць Лесі. —
Учора дом насупраць
Знеслі.
Была сцяна
У самае акно,
А зараз неба, сонца —
Усё відно.
Што значыць у пакоі
Павіднела!
Аж на душы ў мяне
Павесялела.
Івана жонка тут перапыніла:
— Кінь, гэта ж я
Акно памыла.

**Уладзімір Мапвеенка**

З чаго смяюцца суседзі.






— Не перажывай, тата: у мяне сёння таксама сарвалася во такая пяцёрка!



Каб ураўнаваць шанцы...



Без слоў.

## КУРЁЗЫ

### ДЗЕ ВАША НАПЫШЛІВАСЦЬ?

Не так даўно ў Англіі сярод яму падобных шматлікіх нарадзіўся новы самадзейны музычны ансамбль пад незразумелаю назваю „Бусінес". Ужо яго першы канцэрт выклікаў вялікі рэзананс у лонданскім друку: многа пісалі пра незвычайную арыгінальнасць і таленавітасць артыстаў, пра надта самабытны і цікавы рэпертуар і г.д. А ў адкрытых сяброўскіх даверлівых абмеркаваннях публіка выходзіцца на адным: іграюць і пяюць яны так сабе, не лепш і не горш за іншых, а вось на тое, як істэрычна крычуць юнца на эстрадзе прадстаўнікі даўніх арыстакратычных прозвішчаў, якія калісьці былі слаўпамі Вялікай Брытаніі, паглядзець усім надта цікава. Назавём некаторых з іх: спявачка, салістка 23-гадовая лэдзі Тэрэза Манерз з'ўляецца дачкою князя Рутланд. Саліст Бутэр (так яго клічуць калегі) мае громкі тытул маркіза оф Варсенштэр. У якасці акампаніятараў выступаюць маладыя лорды Джон Самерсед і Мікаэл Сесіль. Куды падзелася векавечная напышлівасць і недасягальнасць гэтых громкіх гістарычных прозвішчаў, носьбіты якіх з ліку далёкіх продкаў любілі саміператвараць бедных людзей у скамарохаў для ўласнай пацехі. А зараз іх прамыя нашчадкі самі скамарошнічаюць за грашовую падачку на ўсеагульны агляд.




Бывае, што чым больш раз[illegible]ь, тым цяжэй праслывуць.